

# Дзвінскі ўзгорак

*Кроч на свой родны,*
*дзвінскі ўзгорак,*
*каб глядзець у будучую сінь*

**ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ВІЦЕБСКАГА РАЁНА, №5 (5)**
**КРАСАВІК 2014 ГОДА**

САЦЫЯЛЬНАЯ ПАЛІТЫКА

## БЮДЖЭТ ПРАЖЫТАЧНАГА МІНІМУМУ ПАВЫШАНЫ

**Саўмін зацвердзіў новыя памеры бюджэту пражытачнага мінімуму ў сярэднім на душу насельніцтва. Пра гэта паведаміла БЕЛТА са спасылкай на прэс - службу ўрада. Разам з гэтым з 1 мая павялічацца пенсіі і дзіцячыя дапамогі.**

Бюджэт пражытачнага мінімуму з 1 мая павялічаны на 7,5% - да 1.212.470 рублёў у сярэднім на аднаго чалавека. Ён характарызуе мінімальную мяжу спажывання і ўяўляе сабой вартасную ацэнку мінімальнага набору матэрыяльных выгод і паслуг, неабходных для забеспячэння жыццядзейнасці чалавека і захавання яго здароўя (прадукты харчавання, нехарчовыя тавары і платныя паслугі), а таксама абавязковыя плацяжы і ўзносы.

Для розных сацыяльных груп БПМ трохі адрозніваецца. Для працаздольнага насельніцтва ён складае 1357440 рублёў, для пенсіянераў 1.031.330, для студэнтаў 1236240, для дзяцей ва ўзросце да 3-х гадоў 1.027.090, дзяцей ад 3 да 6 гадоў 1.328.760, дзяцей ад 6 да 18 гадоў 1.326.710 рублёў.

Бюджэт пражытачнага мінімуму вызначае лімітавы ніжні ўзровень даходу. Разам з гэтым ад яго залежыць памер працоўных мінімальных і сацыяльных пенсій, а таксама надбаўкі да іх. 3 мая яны павялічацца на 7,5%.

З наступнага месяца на столькі ж падвысяцца некаторыя дапамогі сем'ям, якія выхоўваюць дзяцей. У прыватнасці, пры нараджэнні першага дзіцяці бацькі адначасова атрымаюць 10 бюджэтаў пражытачнага мінімуму, ці 12.124.700 рублёў (да 1 мая - 11.280.700 рублёў). З з'яўленнем на свет другога і наступных дзяцей прадугледжана сацыяльная падтрымка ў памеры 14 БМП. У грошах гэта 16.974.600 рублёў (да 1 мая - 15.793.000 рублёў).

Міністэрства працы і сацыяльнай абароны перагледзела і іншыя сацыяльныя выплаты. Дапамога на дзяцей (акрамя дзіцяці - інваліда) складае 606.200 рублёў, на дзіця - інваліда і інфікаванага ВІЧ да 18 гадоў 848.700 рублёў.

Бюджэт пражытачнага мінімуму штоквартальна зацвярджаецца ўрадам з улікам інфляцыі за гэты перыяд. Ён прызначаны для аналізу і прагназавання ўзроўню жыцця насельніцтва, аказання сацыяльнай дапамогі малазабяспечаным і абгрунтавання мінімальных дзяржаўных сацыяльна-працоўных гарантый.

- Гэты паказчык з'яўляецца спажывецкім бюджэтам мінімуму матэрыяльнай забяспечанасці і дазваляе задавальняць толькі самыя надзённыя патрэбы людзей, - тлумачаць у Мінпрацы і сацабароны.

Устаноўленыя памеры бюджэту пражытачнага мінімуму будуць дзейнічаць да 31 ліпеня 2014 года.

**Чытайце сайт Віцебскага раёна: http://vicebskreg.by**

КНІГІ

## НОВЫ НУМАР «ARCHE»: ВІЦЕБСКІЯ ГІСТОРЫІ

**Новы нумар «ARCHE» (№ 3 за 2014 год) цалкам прысвечаны Віцебску і яго тысячагадовай гісторыі.**

Як пішуць у прадмове яго ўкладальнікі, "Віцебск гістарычна мае памежны статус. За тысячагадовую гісторыю толькі два стагоддзі каля яго не прабягала мяжа. Увесь астатні час віцьбічы – на франціры, што наклікала на горад бедствы ад захопаў і акупацый. Тэма знішчэння, рамонту, аднаўлення і занядбання замкаў пастаянна падмалася жыхарамі Віцебска ў яго сярэднявечнай і раннемадэрнай гісторыі".

Віцебскі нумар «ARCHE» раскавае пра:

— адносіны паміж Віцебскам і Рыгай у XIV—XVII стст., а таксама пра тое, як Рыга дыктавала кулінарныя густы віцяблян;

— строі віцебскага шляхціца канца XVI — першай паловы XVII ст. ;

— пра шляхецкае саймікаванне ў Віцебску пачатку XVII ст. ;

— заняпад габрэйскай меншасці ў Віцебску ў першай палове XX ст. ;

— працяглыя раскопкі Верхняга замку ў Віцебску, якія скончыліся археалагічнай катастрофай;

— дэеўрапеізацыю гарадскога ландшафту гораду цягам апошніх стагоддзяў;

— беларускага "нацыяналіста" Янку Гаўрыса сярод віцебскіх супрэматыстаў кола Казіміра Малевіча;

— школу віцебскіх гравёраў 1920-х гадоў;

— першыя гады Беларускага дзяржаўнага тэатру ў Віцебску;

— саветызацыю Віцебшчыны ў 1920-х гг. ;

— архітэктуру савецкага авангарду ў Віцебску;

— святкаванне тысячагоддзя Віцебску;

— дзейнасць і творчасць Алеся Пушкіна ў Віцебску.

Нарэшце 4 артыкулы прысвечаны віцебскім музеям.

Нумар багата ілюстраваны: у ім змешчаны сотні ілюстрацый, у тым ліку ў колеры.

Выданне можна замовіць, даслаўшы электронны ліст на адрас dastauka@arche.by. Цана (з улікам дастаўкі) — 69 тыс. рублёў.

Замаўляючы выданне, у полі «Тэма» трэба пазначыць «Віцебскія гісторыі», а ў лісце падаць свае дакладныя каардынаты: паштовы адрас, індэкс, прозвішча і ініцыялы, тэлефон для камунікацыі. Прапанова дзейнічае толькі на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь.

**Беларускі мультымэдыйны партал ARCHE.BY**

БРАКАНЬ'ЕРЫ

## ЗДАБЫЛІ ГЛУШЦА

**13 красавіка работнікі Віцебскай міжрайінспекцыі ў межах тэрыторыі для палявання Тарасенского лясніцтва Віцебскага раёна ўстанавілі факт незаконнай здабычы глушца невядомым, якому пры затрыманні ўдалося схавацца.**

На месцы палявання парушальнік пакінуў незарэгістраваную паляўнічую стрэльбу і тушку птушкі.

Віцебскі РАУС вырашае пытанне аб узбуджэнні крымінальнай справы па ч. 2 арт.282 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь - незаконнае паляванне, якое пацягнула прычыненне шкоды ў буйным памеры - 70 базавых велічынь.

**Дзяржаўная інспекцыя аховы жывёльнага і расліннага свету пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь**

ПРАЦАЎЛАДКАВАННЕ

## УСЕ ПРАЦЫ ДОБРЫЯ

**У банку вакансій на сайце Міністэрства працы і сацыяльнай абароны на 18 красавік 2014 г для гаспадарак і прадпрыемстваў Віцебскага раёна знаходзім 91 вакансію і 162 свабодныя рабочыя месцы.**

Вакансіі розныя: пачынаючы ад кухонных рабочых, мыйшчыкам посуду і медыцынскай сястры-спецыяліста на сезонную працу ў аздараўленчы лагер «ясная казка» з заробкам 1660 000 рублёў, пастаянна патрабуюцца кіроўцаў аўтамабіляў (зарплата 2800 000), галоўныя аграномы (4000000), трактарысты-машыністы (2900000), і экзатычная пакуль вакансія сістэмнага адміністратара ў ААТ «Ліпаўцы» за 3000000 рублёў.

І калі спецыялістам з вышэйшай адукацыяй (ветэрынары, галоўныя заатэхнікі, аграномы, ветурачы) прапануюцца вакансіі з заробкамі ад 3 да 6 млн рублёў, то проста рабочы будзе рады і 1,5 млн. Патрабуюцца рабочыя ў Сялюцкім дом-інтэрнат, Віцебскі плодаагароднінны камбінат, ААТ «Рудакова», Мазалаўскай ПМС, на эксперыментальную базу ім.Шмырева і Тулава, Віцебскую бройлерную птушкафабрыку, ААТ «Белвітуніфарм» (19 вакансій!), і шмат дзе яшчэ патрабуюцца кваліфікаваныя рабочыя рукі. Але, на жаль, спіс вакансій усё павялічваецца.

Пералічваць усе вакансіі не будзем, заўважым, што афіцыйны ўзровень зарэгістраванага беспрацоўя ў Віцебскай вобласці складае 0,9%, а сярэдняя зарплата па Віцебскай вобласці склала ў студзені 4749000 руб, або 89,2% ад сярэднерэспубліканскага ўзроўню ў 5.322.000 рублёў за студзень гэтага года.

**А.Кандратовіч**

ХОМА САВЕТЫКУС

## АРГАНІЗУЮЦЬ ПІЯНЕРЛАГЕР ДЛЯ ДАРОСЛЫХ

**Знаходзіцца ён будзе ў вёсцы Барвін Перавоз на тэрыторыі комплексу "Дружныя рабяты", адзін з яго арганізатараў — Віцебскі райвыканкам, паведамляе газэта "Рэспубліка".**

Наведвальнікаў раздзеляць на атрады, за кожным з якіх замацуюць піянерважатых. Адпачывальнікаў тут урачыста прымуць у піянеры і нават завяжуць ім чырвоныя гальштукі. А яшчэ іх чакаюць ранішняя гімнастыка, песні ля кастра, дыскатэка ў стылі 80-х. Не абыдзецца змена і без спаборніцтваў, у якіх удзельнікі будуць абараняць гонар свайго атрада. Вось толькі доўжыцца гэткі адпачынак будзе ўсяго два дні — суботу і нядзелю.

— Першы заезд мы чакаем ужо 26 красавіка, — кажа Яўген Касціцын, адзін з арганізатараў праекта. — Усяго лагер можа ўмясціць каля 120 чалавек. Запісацца да нас могуць людзі з розных рэгіёнаў нашай краіны, а таксама краін-суседак. Узрост наведвальнікаў — ад 18 гадоў.

Арганізоўваць міні-змены пакуль тут плануюць два разы ў месяц, а пасля і кожныя выхадныя.

**Кацярына Панцялеева**

ЗДАРЭННІ

# І ЗНОЎ КРАДЗЕЖ ...

**Не перастанем здзіўляцца велічыні запытаў, а можа і усёеднасці мясцовых зладзюжак, яія падкідваюць працу работнікам праваахоўных органаў.**

Так, 25 красавіка ў 9 гадзін 10 хвілін у Віцебскі РАУС звярнуўся працоўны 1975 года нараджэння, жыхар Віцебска з заявай, што ў перыяд з 1 сакавіка па 25 красавіка неўсталяваны злачынеца, выставіўшы вакно, пракраўся ў яго дачны дом, размешчаны ў вёсцыПаддуб'е, і здзейсніў крадзеж аудзіамагнітафона і электрачайніка.

Шкода мае памер у 200 тысяч рублёў. Супрацоўнікамі АУР РАУС папярэдне ўстаноўлена, што злачынства здзейсніў жыхар Віцебскага раёна 1988 года нараджэння. ОСК ўзбуджаная крымінальная справа па ч. 2 арт. 205 КК.

**Максім Штаткевіч**

ДА ЎВАГІ!

# РЫБАЛКА ПА-ЗА ЗАКОНАМ

**19 красавіка работнікі Віцебскай міжрайінспекцыі на возеры Вымна Віцебскага раёна затрымалі мясцовага жыхара, які з дапамогай стаўных сетак незаконна здабыў 9 асобін розных відаў рыб.**

Як гэта паўторнае падобнае парушэнне, здзейсненае ім на працягу года, Віцебскі РАУС вырашае пытанне аб узбуджэньні крымінальнай справы па ч. 1 арт. 281 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь - незаконная здабыча рыбы, здзейсненая на працягу года пасля накладання адміністрацыйнага спагнання за такое ж парушэнне.

ЗДАРЭННІ

# ЯКАЯ ПРЫЧЫНА Ў ПАЖАРУ?

**Не праходзіць і тыдня, каб у аператыўнай зводцы абласнога ўпраўлення МНС не было згадкі пра пажар на тэрыторыі Віцебскага раёна.**

Вось і 16 красавіка ў Бабініцкім сельскім савеце, на 12 км аўтадарогі Віцебск-Вяліж як мяркуецца, у 04-06 адбылося ўзгаранне гаспадарчай пабудовы 20х40 метраў . У выніку пашкоджаны сцены, столевыя перакрыцці , знішчана і пашкоджана маёмасць. Прычына пажару і матэрыяльныя страты ўдакладняюцца.

У гэты ж дзень у 14-53 у вёсцы Кашалёва гэтага ж сельскага савета загарэўся дачны домік. У доме памерамі 6х8 метраў знішчаны дах, пашкоджаныя столевыя перакрыцці і сцены, агонь знішчыў лазню 3х6 метраў, сарай 4х4 метра. Прычыны усталёўваюць дазнаўцы МНС.

Як паказвае статыстыка, асноўнай прычынай вясновых пажараў з'яўляюцца падпал травы, кароткае замыканне, чалавечы фактар - курэнне, неасцярожнасць і бестурботнасць. Значыць, ёсць яшчэ праца для прафілактычных гутарак у работнікаў пажарнай службы раёна.

**Іосіф Пагарэлы**

КРАЯЗНАЎСТВА

# АБ ВЫПРАБАВАННЯХ ПРЫ САВЕТАХ СЯМ'І ІЛЛІ РЭПІНА

**Невялікая сядзіба Здраўнёва паблізу Віцебска стала для славутага рускага мастака Іллі Рэпіна месцам, дзе яго талент набыў новае дыханне.**

Тут на працягу 1892-1902 гг. мастак стварыў шэраг карцін, што ўвайшлі ў скарбніцу рускага і сусветнага мастацтва: "Восеньскі букет" (1892), "На Заходняй Дзвіне. Усход сонца" (1892), "Беларус" (1892), "Месячная ноч" (1896), "Дуэль" (1896), "На сонцы" (1900) і іншыя. Аднак яшчэ ў 1899 г. творца набыў пад Пецярбургам новую сядзібу – "Пенаты", дзе пазней жыў пастаянна.

Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі і абвяшчэння незалежнасці Фінляндыі "Пенаты"аказалісяадарванымі ад Расіі. Рэпін міжволі становіцца эмігрантам. У 1918 г. у Здраўнёва з галоднага Петраграда перабіраецца малодшая дачка мастака Таццяна Рэпіна-Язева са сваёю дачкою. З гэтага моманту падзеі ў былым месцы адпачынку на Віцебшчыне становяцца крыніцаю турбот і клопатаў для Іллі Яфімавіча.

Сапраўды, родныя мастака па класіфікацыі бальшавікоў трапялі ў разрад "былых памешчыкаў" і "класава чужых элементаў", што ставіла іх у поўную залежнасць ад міласці вярхоў. Таму і Рэпін пры ўсёй варожасці да Савецкай улады кожны раз вымушаны быў апеляваць да яе, каб нейкім чынам палепшыць становішча "роднай яму сям'і".

Так, у фондах Дзяржаўнага архіва Віцебскай вобласці (ДАВВ), Віцебскага абласнога краязнаўчага музея (ВАКМ) захавалася дастаткова разгорнутае ліставанне 1923-1924 гг. (17 дакументаў) па пытаннях дапамогі сваякам І.Я. Рэпіна, якія жылі ў Здраўнёва, і аховы сядзібы. Аднак сляды перапіскі ідуць у "цэнтр" - у Маскву.

У чэрвені 1921 г. з Петраграда ў Здраўнёва на два тыдні прыехала Вера Рэпіна. У лісце да бацькі яна перадае падзяку ад малодшай дачкі за завяшчанне ёй Здраўнёва, але паведамляе, што такія завяшчанні ўжо не маюць сілы, і раіць: "<…> трэба пісаць так, што: "Прашу Здраўнёва пакінуць недатыкальным, захоўваючы і не разбураючы яго, якім яно было – майго імя – ахоўнікамі ж прызначаю дачку Таццяну, унучку Таццяну і яе мужа Івана Дзмітр[ыевіча] Дыяканава". <…> Усе сяляне, валасць і горад Віцебск помняць цябе за мінулае, і ўсё зробяць па жаданні тваім".

Выяўленыя дакументы прымушаюць засумнявацца ў правамернасці апошняй фразы. Ход, змест і працягласць ліставання, якое распачалася пасля зваротаў па дапамогу, хутчэй можна аднесці да кур'ёзу, прыкладу бюракратычнай валакіты.

У публікацыях ужо прыводзіліся звесткі пра лісты аддзела па справах музеяў і ахове помнікаў мастацтва, старажытнасці і прыроды Наркамаса РСФСР, што былі адпраўлены 15 і 20 лютага 1923 г. адпаведна ў Віцебскі губвыканкам і губкамунаддзел, у якіх органы мясцовай улады інфармаваліся пра тое, што Здраўнёва знаходзіцца пад "асаблівай аховай" аддзела…

4 мая 1923 г. загадчыца аддзела музеяў Н.І. Троцкая атрымала наступны ліст Іллі Рэпіна: "Паблізу гор. Віцебска, Вярхоўскай валасці ў маёнтку "Здраўнёва", што належаў мне, з 1892 г. я жыў амаль бязвыезна больш за 10 гадоў, маючы 130 дзесяцін зямлі, з лесам, на беразе Заходняй Дзвіны. Прыстасоўваючы, прыладжваючы да мастацтва жывапісу, якім заўсёды займаўся, і гаспадарыў увесь гэты час, даючы заробак сялянам суседніх вёсак.

Майстэрня, вежа, і інш. з роспісам сценаў, каміна яшчэ збольшага ацалелі. З часоў новага ўрада, дачка мая, Таццяна Іллінічна Язева (народж. Рэпіна) з маёю ўнучкаю Таццянай Мікалаеўнай Дыяканавай, выкладаючы ў школе, заснаванай у нашым доме, і нясуць усе павіннасці на 4-х дзесяцінах зямлі, усяго пакінутых ім для пракармлення.

Іван Дыяканаў, ажаніўшыся з маёй унучкаю, з яе маці працуюць звыш сіл, асабістаю працаю, каб як-небудзь не памерці з голаду.

100 дзесяцін я саступіў танна сялянам, па іх неадчэпнай просьбе яшчэ раней. Цяпер пры сядзібе пакінута ім 4 бы дзесяціны.

Прашу Аддзел Музеяў, ці не знойдзе ён магчымым ахоўваць, пад непасрэдным назіраннем маёй дачкі Таццяны Іллінічны Рэпінай-Язевай, спрыяючы ёй неабходным рамонтам дома-школы, а таксама знайсці магчымасць дадаць ім зямлі".

Мясцовыя ўлады разумеюць літаральна – трэба "дапамагчы Рэпіну" і спускаюць адпаведнае ўказанне павятоваму выканкаму. Намеснік загадчыка аддзела ўпраўлення павятовага выканкама Герасіменка, выяўляючы сваю недасведчанасць, 26 чэрвеня просіць губвыканкам "паведаміць месца жыхарства такога (І. Рэпіна, – В. Ш.), у адваротным выпадку не ўяўляецца магчымым ажыццявіць абследаванне яго сямейнага і маёмаснага становішча". Сакратар губвыканкама ў адказ паведамляе: "Губвыканкаму адрас прафесара Рэпіна невядомы, яго можна даведацца ў ПЗУ (павятовым зямельным упраўленні, – В.Ш.)" .

16 ліпеня Герасіменка адпраўляе запыт у ПЗУ. Рэзалюцыя на дакуменце абвяшчае: "Сам Рэпін знаходзіцца ў Фінляндыі. Перапіска аб зямлі і пабудовах знаходзіцца ў Судовай камісіі. 17/VII-23".

28 чэрвеня Віцебскае ПЗУ вяртае ў аддзел упраўлення Віцебскага павятовага выканкама перапіску на 6 аркушах і інфармуе, што сям'я – дачка і ўнучка – прафесара жывапісу І. Рэпіна пражывае ў маёнтку Здраўнёва Храпавіцкай воласці.

Нарэшце месца знаходжання здраўнёўскіх пакутнікаў высветлена і паступае рэзалюцыя: "Тэрмінова накіраваць Храпавіцкаму ВВК для абследавання і дастаўкі матэрыялу прэзідыуму са сваім заключэннем. 31/VII" .

Але валасны выканкам не спяшаецца, і 12, а затым 14 кастрычніка паступаюць гнеўныя лісты сакратарыята Прэзідыума Віцебскага павятовага выканкама аб неадкладным правядзенні абследавання дома І. Рэпіна. Рэзалюцыя: "Тэрмінова выканаць і даць тлумачэнне, чаму не выканана. 22/Х г/г". Адказ: "З-за адсутнасці часу, неабходна правесці абследаванне старшыні сельсавета. 25/Х 23 г.". 27 кастрычніка адпаведнае распараджэнне было адпраўлена старшыні сельсавета.

Нарэшце, праз 7 месяцаў пасля ліста Н.І. Троцкай, 30 лістапада 1923 г. член Храпавіцкага валвыканкама С.І. Івашняў выехаў у Здраўнёва для ажыццяўлення абследавання. Складзены акт з'яўляецца важным дакументам для правядзення рэканструкцыі забудовы сядзібы, у якім, што асабліва каштоўна, акрамя звестак пра характар і стан пабудоў, пазначаюцца іх памеры.

11 снежня акт разам з суправаджальным лістом Храпавіцкага валвыканкама пачаў узыходжанне па бюракратычнай лесвіцы. Забаўна, што ў суправаджальных пісьмах захоўвалася фраза – "ліставанне з нагоды абследавання сямейнага і маёмаснага становішча прафесара жывапісу Рэпіна". І толькі ў апошнім лісце арганізацыйнага аддзела УЦВК у аддзел навукі Наркамаса ад 17 студзеня 1924 г. у машынапіс ад рукі была ўнесена праўка "<…> становішча сям'і прафесара жывапісу Рэпіна". Зрэшты, і такая фармулёўка не ўносіла поўнай яснасці, пра якую сям'ю ідзе гаворка.

Матэрыялы абследавання былі адасланы ў аддзел музеяў "па прыналежнасці", і, як можна зрабіць выснову з далейшага развіцця падзей, ніякіх мер па рамонту пабудоў сядзібы прадпрынята не было. Сям'і Т.І. Рэпінай-Язевай удалося ў рэшце рэшт вырашыць толькі зямельнае пытанне, а новы дом для сябе будаваць уласнымі сіламі.

У рэшце рэшт родныя мастака ў ліпені 1930 г. пакінулі Здраўнёва і выехалі ў Фінляндыю. Да моманту ад'езду галоўны дом сядзібы прыйшоў у такі варты жалю стан, што яго давялося прадаць на дровы.

**Валерый Шышанаў**
**Vitebsk4.me**

БЕЛАРУСКАЯ МАДЭЛЬ

# НОВЫ ЭТАП - ЭКАНАМІЧНЫ БАРДАК

**Пакуль кіраўнік дзяржавы кідаецца па краіне з мэтай выкаранення «бардака» на дзяржпрадпрыемствах, працэс дэіндустрыялізацыі беларускай эканомікі набірае абароты.**

11 красавіка Аляксандр Лукашэнка выявіў на тэрыторыі льнозавода ў Слуцку бруд і вялізныя кучы сыравіны. Канстатаваўшы «поўны бардак» і адсутнасць гаспадара, ён пераехаў на другое праблемнае прадпрыемства горада - Слуцкі мясакамбінат, дзе, як паведамілі афіцыйныя крыніцы, «звярнуў увагу на адсутнасць належнага парадку і непрыстойныя ўмовы». Зазірнуў кіраўнік дзяржавы і ў халадзільныя памяшканні.

Іхвізуальны агляд, сумешчаны з аналізам паветранага асяроддзя («Тут жа дыхаць няма чым!"), Скончыўся распараджэннем распачаць крымінальную справу і разабрацца па ўсіх пытаннях. Гэта было ўжо другое распараджэнне такога роду за дзень. Першае старшыня Камітэта дзяржаўнага кантролю Аляксандр Якабсон атрымаў яшчэ на ільнозаводзе.

Але адміністрацыйнай мяжой Слуцка спецаперацыя па навядзенні «належнага парадку» не абмяжуецца. Лукашэнка даў указанне: «Неадкладна удакладніце па краіне, ці ёсць такі бардак на нейкіх прадпрыемствах».

Улічваючы, што нават у асобна ўзятым Слуцку бардак ня стаўся адзінкавым, можна спрагназаваць, што шматлікім спецыялістам па ўліку бардака ў краіне беспрацоўе не пагражае.

**Добра працуюць там, дзе не перашкаджае дзяржава**

22 сакавіку 2002 года на семінары кіруючых работнікаў рэспубліканскіх і мясцовых дзяржаўных органаў Лукашэнка выступіў з дакладам, прысвечаным «беларускай мадэлі эканамічнага развіцця". Абмяжуюся ключавой цытатай: «Так, «беларуская мадэль развіцця» або "беларускі шлях развіцця" аб'ектыўна існуе. Усё, што сёння мы маем у эканоміцы, у сацыяльнай і іншых сферах, - вынік таго, што мы ўсе гэтыя гады ішлі сваім шляхам, мы жылі сваім розумам. Мы не слухалі «дактароў» з Міжнароднага валютнага фонду, якія прапісваюць лекі, што больш небяспечныя за саму хваробы».

Прайшло 12 гадоў, але ні адно слова не страціла актуальнасці. На аператыўных нарадах у Палацы Незалежнасці, падчас працоўных паездак па краіне кіраўнік дзяржавы рэгулярна дэманструе, чаго ўдалося дасягнуць, жывучы сваім розумам. Слуцкія кучы сыравіны і водар гнілых туш з агульнай карціны «дасягненняў» не выпадаюць. Роўна як і фінансавыя вынікі піваварнай галіны Беларусі, якая, як адзначыў кіраўнік дзяржавы на нядаўняй нарадзе, "сёння не проста кульгае, а знішчаецца» (пры тым што яшчэ сем гадоў таму былі прыняты рашэнні аб буйнамаштабным тэхнічным перааснашчэнні піваварных заводаў і г.д.).

Загульнай карціны выпадаюць віды эканамічнай дзейнасці, мінімальным чынам звязаныя з дзяржавай.

У першую чаргу - Парк высокіх тэхналогій (ПВТ). На прэс - канферэнцыі ў сакавіку яго дырэктар Валерый Цапкала паведаміў, што па выніках 2013 агульны аб'ём выручкі ПВТ склаў 525 млн. даляраў. 3 пункту ж гледжання ўкладу ў ВУП паказчыкі ПВТ, па словах Цапкала, сувымерныя з тымі, што давалі МАЗ, БелАЗ і МТЗ разам узятыя ў свае лепшыя гады.

Загульнай карціны выпадаюць і аператары мабільнай сувязі. Агульная колькасць абанентаў сотавай сувязі ў Беларусі на 1 студзень 2014 г склала, па дадзеных Мінсувязі, 11,1 млн.

Свой уклад у развіццё сотавай сувязі спрабавала ўнесці і дзяржава. Як тут не ўспомніць спробу РУП "Белтэлекам" і ДНВА «Агат» стварыць у 2004 годзе дзяржаўнага аператара сотавай сувязі «БеСТ». З фармальнага боку праблем не ўзнікла. Кампанію зарэгістравалі, выдалі ліцэнзію на аказанне паслуг сотавай сувязі, і да лета 2008 года яна давяла сваю долю на рынку да ... 2,5 %. Неўзабаве аўтсайдэр рынку быў прададзены турэцкай кампаніі Turkcell.

**Моцная ўлада бяссільная супраць законаў рынку**

Прыгледзімся да асаблівасцяў "беларускай мадэлі эканамічнага развіцця" з дапамогай аўтара - нязменнага прэзідэнта краіны.

Першая з іх, па яго думкі, - моцная і эфектыўная дзяржаўная ўлада. «Мы ж з самага пачатку, - растлумачыў Лукашэнка ўдзельнікам семінара ў далёкім ужо 2002 годзе, - ясна ўяўлялі, што дачаснае пашырэнне рынкавых адносін не дазволіць радыкальна вырашыць ні адну з існуючых самых вострых праблем. Затое створыць новыя, якія вынікаюць з спецыфікі рынку. Парушыцца грамадская згода, што прывядзе да канфліктаў і нестабільнасці. А бо палітычная стабільнасць - адна з галоўных умоў паступовай інтэграцыі ў сусветную эканоміку».

Спрэчцы няма, стабільнасць у беларускім грамадстве падтрымліваецца, а вось з інтэграцыяй у сусветную эканоміку выйшла замінка. Як ні спрабаваў Захад «прымусіць быць такімі, як усе вакол нас, як яны, у рэшце рэшт», нічога ў яго не атрымалася. «Мы ім сёння як костка ў горле», - канстатаваў Лукашэнка ў пасланні народу і парламенту ў 2011 годзе.

Па сусьветных паняццях сучаснай дзяржавы - адміністрацыйная і падатковая. Яе актыўнасць абмяжоўваецца кіраўнічымі задачамі. Вытворчыя задачы перадаюцца праз аддзяленне ад яе рынку. Беларуская дзяржава застаецца дзяржавай вытворчай, аднак зацікавіць чым-небудзь сусветную эканоміку яна не ў стане.

Абмяжуюся адным прыкладам. Паводле інфармацыі начальніка ўпраўлення навукі і інавацыйнай палітыкі Міністэрства эканомікі Дзмітрыя Крупскага («Савецкая Беларусь» ад 7 сакавіка), усе беларускія дзяржаўныя прадпрыемствы выдаткавалі ў 2012 годзе на распрацоўку новай прадукцыі каля 80 млн. еўра, тады як адзін «Фольксваген» - 9,5 млрд. еўра (5% ад гадавога аб'ёму продажаў).

Пры такіх суадносінах любыя развагі пра "косткі ў горле" губляюць сэнс. Калійныя ўгнаенні, нафтапрадукты - вось і ўвесь набор канкурэнтаздольных тавараў, што выбраляюцца ў Беларусі.

**Дэіндустрыялізацыя набірае абароты**

Большасць беларусаў не працуюць, а служаць. Служаць дзяржаве і за сваё служэнне ўзнагароджваюцца па нормах, дзяржавай ж усталяваных. Па-за канкурэнцыяй тут сілавікі і чыноўнікі.

На долю дзяржсектара прыпадае каля 70% ВУП, на дзяржпрадпрыемствах працуе дзве трацінь эканамічна актыўнага насельніцтва Беларусі.

Вера ў перавагі эканомікі, заснаванай на дзяржаўнай уласнасці, ўласцівая не толькі канструктару «беларускай мадэлі», але і мільёнам беларусаў.

У сакавіку 2014 года, па дадзеных НІСЭПД, больш эфектыўнай формай уласнасці дзяржаўную лічыла 38% беларусаў, прыватную - 51%. Але гэта ў тэорыі, на практыцы ж, пры адказе на пытанне «На якой прадпрыемстве вы хацелі б працаваць?» Такія перавагі сёння ўжо не фіксуюцца (гл. табліцу). Зразумець гэта нескладана, калі ўлічыць, што ўзровень падтрымкі дзяржсектара з боку бюджэту павінен скласці больш за 11 трлн. рублёў.

Пакуль кіраўнік дзяржавы даказвае перавагі ўласнай эканамічнай мадэлі, працэс дэіндустрыялізацыі ўпэўнена набірае абароты.

Не выключана, што гэты год будзе апошнім у гісторыі вытворчасці беларускіх тэлевізараў. У студзені-лютым 2014 іх вытворчасць адносна студзеня - лютага мінулага года склала 23,6 %. Пры гэтым на 9 прададзеных у Беларусі айчынных тэлевізараў прыйшоўся 91 імпартны!

Гэтак жа імкліва падае вытворчасць пральных машын. За два першыя месяцы бягучага года яна скарацілася на 60,4 % адносна паказчыку за адпаведны перыяд мінулага года. З 100 машын, рэалізаваных гандлем, доля айчынных склала 6,2%. Спіс можна працягнуць.

**Сяргей Нікалюк**

ГАНДАЛЬ

# «ЕЎРАОПТ» ГАТОВЫ КАНКУРАВАЦЬ З СПАЖЫЎКААПЕРАЦЫЯЙ

**Гандлёвая сетка «Еўраопт» прапануе стварыць новую сістэму развазнога гандлю з 1000 аўтакрам, пры якой у кожную вёску па графіку штодня прыязджала б яе аўталаўка і аўталаўкі іншых уласнікаў.**

На думку кіраўніка сеткі, гэта дапаможа сельскім жыхарам атрымліваць больш свежых прадуктаў.

«Адзін дзень, напрыклад, - крама спажыўкааперацыі, у другі дзень - «Еўраопт», у трэці - яшчэ нейкі сеткі або індывідуальнага прадпрымальніка. Гэта створыць пэўную канкурэнцыю, якая пойдзе толькі на карысць вяскоўцам: кожны дзень у іх будзе аўталаўка, і кожны дзень яны змогуць купляць свежыя прадукты», - сказаў у інтэрв'ю БЕЛТА гендырэктар сеткі Андрэй Зубкоў.

Такім чынам Зубкоў прапануе вырашыць праблемы ў сферы сельскага гандлю, звязаныя, па яго словах, з недахопам кадраў, слабой тэхнічнай аснашчанасцю крам і нізкай абарачальнасцю тавараў, што адбіваецца на іх якасці і асартыменце. «Гандаль на сяле патрабуе пераменаў. Сельскі пакупнік не мае магчымасці набываць ні свежае мяса, ні астуджаную курыную разделку, няма добрага асартыменту садавіны і агародніны, не заўсёды ёсць свежае малако і хлеб ні ў аўтакраме, ні ў стацыянарнай сельскай краме», - адзначыў Зубкоў.

Ён распавёў, што свае паслугі райвыканкамам гандлёвая сетка ўжо прапаноўвала, але ім выдзелілі толькі 13 маршрутаў для працы аўтакрам «Еўраопта». На астатнія прапановы адказалі адмовай. «Фармулёўка адмовы вельмі простая: насельніцтва задавальняе мясцовы гандаль, мы не маем патрэбу ў паслугах «Еўраопта», аднак усе ведаюць, колькі праблем сёння ў гандлю ў вёсцы", - падкрэсліў Зубкоў. Ён дадаў, што на працягу года яго кампанія гатова арганізаваць 1000 аўтакрам па ўсёй краіне.

У адказ на прапановы «Еўраопта» аб развазной гандлі спажыўкаперацыя адказала месячнікам «Аўталаўка-2014». Пра гэта казаў старшыня Белспажыўкааперацыы Валерый Іваноў на нарадзе, што прайшло ў Гарадку.

Падкрэслівалася, што на Віцебшчыне самая вялікая сетка аўтакрам - 155. Але ці гатовыя яны канкураваць з іншымі ініцыятывамі развазной гандлю на вёсцы - вялікае пытанне.

Дзяржава ў асобе спажыўкааперацыі вельмі баіца канкурэнцыі «Еўраопта» у развазным гандлі. Гэта было б выгадна сельскім спажыўцам. Але не выгадна функцыянерам спажыўкааперацыі.

**Л. Антонаў**

УКРАІНСКА-РАСІЙСКІ КАНФЛІКТ

# КІРАЎНІК ДЫВЕРСАНТАЎ — РАСІЙСКІ АФІЦЭР

**Служба бяспекі Украіны ўстанавіла асобу кіраўніка расійскай дыверсійнай групы, якая тэрарызуе мясцовае насельніцтва, захоплівае адміністрацыйныя будынкі, дэстабілізуе грамадска-палітычную сітуацыю ва ўсходніх абласцях Украіны.**

Ім аказаўся грамадзянін РФ, афіцэр спецназа ГРУ Генштаба Узброеных сіл Расіі Ігар Стралкоў.

Менавіта яго голас — на запісе тэлефоннай размовы з маскоўскім куратарам, апублікаваным у СМІ 14 красавіка, дзе ён дае справаздачу пра тэрор у Славянску і расстрэл аўтамабіля з украінскімі праваахоўнікамі.

У ходзе аператыўна-следчых дзеянняў затрыманыя раней супрацоўнікамі СБУ дыверсанты пазналі Стралкова як чалавека, што прыцягваў і ставіў задачы захопліваць адмінбудынкі ў Харкаве.

Устаноўлена, што ў пачатку сакавіка ён прыбыў на тэрыторыю Крыма і каардынаваў захоп расійскімі вайскоўцамі і прадстаўнікамі спецслужбаў РФ ваенных частак Узброеных Сіл Украіны, мясцовых органаў улады і кіравання аўтаноміі, выкраданне вайскоўцаў, актывістаў грамадскіх арганізацый і іншых грамадзян Украіны і замежнікаў, якія знаходзяцца ў Крыме.

Акрамя гэтага, Стралкоў вярбуе грамадзян Украіны для далейшага выкарыстання ў арганізацыі і правядзенні падрыўных акцый на тэрыторыі краіны.

Дыверсант асабіста даваў ўказанне грамадзянам Украіны «К» і «У» захапіць і ўтрымліваць будынак Харкаўскай аблдзяржадміністрацыі, вайсковыя часці і падраздзяленні праваахоўных органаў з мэтай завалодання зброяй ў Луганскай вобласці.

**Unian.net**

ДЭМАКРАТЫЧНЫ РУХ

# РАЗАМ ЗА НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ

**У Мінгарвыканкам 25 красавіка была пададзеная заяўка на правядзенне Маршу Незалежнасці. Згодна з планам арганізатараў, 14 траўня ад 17.00 і да 17.30 запланаваны збор удзельнікаў на пляцоўцы каля Нацынальнай бібліятэкі, потым - шэсце па праезнай частцы праспекта Незалежнасці да плошчы Незалежнасці і правядзенне там ад 19.30 мітынгу.**

Сярод заяўнікаў мерапрыемства - першы намеснік старшыні Руху «За Свабоду» Юрась Губарэвіч, намеснік старшыні Руху «За свабоду» Алесь Лагвінец, намеснік старшыні Партыі БНФ Ігар Лялькоў, сябра грамадзянскай кампаніі «Гавары праўду» Сяргей Вазняк і адказны сакратар аргкамітэту па стварэнні партыі "Беларуская хрысціянская дэмакратыя" Дзяніс Садоўскі.

«Мэта правядзення Маршу Незалежнасці - публічнае выказванне падтрымкі ідэі мацавання незалежнасці Беларусі і канстытуцыйнага палажэння пра нейтралітэт», - заявіў на прэс-канферэнцыі з нагоды падавання заяўкі Юрась Губарэвіч.

Па ягоных словах, сёння пытанне пагрозы незалежнасці Беларусі стаіць як ніколі востра, і беларускае грамадства павінна прадэманстраваць сваё адзінства ў справе абароны суверэнітэту краіны.

На думку Губарэвіча, можна разлічваць, што ў прапанаваным фармаце ў маршы возьмуць удзел у разы больш людзей, чымсьці звычайна пад час вулічных акцый у Мінску. «Улады ўжо доўгія гады не даюць прайсціся па цэнтры гораду», - нагадаў ён. І дадаў кансалідацыйны Марш Незалежнасці немагчыма праводзіць на задворках сталіцы.

Па словах Алеся Лагвінца, арганізатары чакаюць на маршы ўдзельнікаў не толькі пад бел-чырвона-белымі, але і дзяржаўнымі чырвона-зялёнымі. «Нашае грамадства - падзеленае. Важна прыйсці да нейкага мінімуму, на які ўсе згодныя», - падкрэсліў Лагвінец, дадаўшы, што трэба рабіць крокі насустрач, і апазіцыя гэта робіць.

«Дата 14 траўня абраная невыпадкова, - падкрэсліў Ігар Лялькоў. - 19 год таму, у 1995 годзе, адбыўся рэферэндум, які замацаваў падзел на «чэсных і нячэсных», «свядомых і несвядомых», бел-чырвона-белых і чырвона-зялёных. Мы хочам пакласці канец такому падзелу. У сітуацыі, калі існуе пагроза незалежнасці, усё грамадства павінна бараніць яе».

Па ягоных словах, арганізатары хочуць даць «уладзе шанец разам з намі прадэманстраваць прыхільнасць да гэтай святой для кожнага беларуса справы».

Арганізатары падкрэслілі: тое, што Марш Незалежнасці мусіць прайсці пад час правядзення ў Мінску чэмпіянату свету па хакеі, дасць дадатковую магчымасць паказаць замежным заўзятарам, як у Беларусі развіваюцца падзеі, наколькі падтрыманая ідэя абароны незалежнасці, у тым ліку пад чырвона-зялёнымі сцягамі.

ПАСЛАННЕ

# ПРАЗ 20 ГАДОЎ НАРЭШЦЕ ДАЙШЛО

**«Калі мы страцім рускую мову — пазбавімся розуму, а калі развучымся гаварыць на беларускай — то перастанем быць нацыяй», — заявіў Аляксандр Лукашэнка ў час паслання беларускаму народу і Нацыянальнага сходу.**

Лукашэнка разам з тым заклікаў не блытаць беларусаў з рускімі — гэта асобныя народы:

— Мы не прарасійскія, не праукраінскія і не прапольскія. Мы не рускія, мы — беларускія. Нашая краіна — Белая Русь, краіна, дзе жывуць і рускія, і ўкраінцы, літоўцы, палякі, яўрэі, татары і шмат іншых. Гэта дзеці Белай Русі, грамадзяне адной краіны.

Старшыня Таварыства беларускай мовы Алег Трусаў лічыць, што трэба выказаць падзяку прэзідэнту Расіі, што беларускі кіраўнік урэшце зразумеў важнасць захавання беларускай мовы ў краіне:

— Гэта добра, што праз 20 гадоў да Лукашэнкі дайшло. Вялікі дзякуй Уладзіміру Пуціну! Зараз ужо сталі крычаць, што тут рускамоўныя пацсяне Лукашэнка, не дае ім развярнуцца, не дае магчымасці на "истинно российском наречии" гаварыць. Яны ж гэта пішуць, пачытайце на іхных паганых сайтах. Ім патрэбная наша тэрыторыя. Ім жа трэба, каб іхныя атамныя ракеты пад Берасцем сталі, вось і ўсё.

Паводле кіраўніка Беларусі, сёння з'явіліся «дзіўныя развагі пра тое, што ў нас нібыта пачынаюць заціскаць рускую мову». У сувязі з гэтым Лукашэнка заявіў, што «няма ніводнай краіны ў свеце, дзе б так беражліва ставіліся да вялікай рускай мовы і вялікай рускай культуры».

**Беларускае Радыё Рацыя**




АДУКАЦЫЯ

# «ОВЦЫ — ЭТО ВАМ НЕ СВИНЬИ»

**Почему в «сильной и процветающей» Беларуси школы вынуждены разводить овец и свиней. Районная газета Витебщины опубликовала показательную историю одной из сельских школ.**

Александр Лукашенко считает учителей надежной опорой государства. Именно так он называет педагогов в последние годы, поздравляя их с Днем знаний и профессиональным праздником. А государство, по его уверениям, «делает все возможное для усиления социальной защищенности педагогических работников и повышения престижа их труда».

Открывая в 2011 году реконструированную школу в Острошицком Городке, Лукашенко заметил, что теперь эта сельская школа ни в чем не уступает городским новостройкам.

— И таких школ у нас тысячи. Здесь вы можете получать качественное образование и всерьез заниматься спортом, расти в мире красоты, игры и творчества, — заявил он. О том, как на самом деле живут некоторые из этих тысяч школ, в одном из последних номеров написала шумилинская районная газета "Герой працы". И хоть тон статьи под говорящим заголовком «Овцы — это вам не свиньи» скорее оптимистичный, первое же предложение звучит, как приговор: «Сегодня любое учреждение образования не может позволить себе заниматься исключительно образованием и воспитанием детей. Это, конечно, в том случае, если хочет уверенно стоять на ногах, быть материально независимой, а значит — свободной в своих планах и решениях».

Как следует из материала, для того, чтобы «уверенно стоять на ногах», Обольская школа занялась свиноводством, но в бизнес вмешалась чума.

«Учителям приходится конкурировать на рынке товаров и услуг на общих условиях, учиться предвидеть, планировать работу так, чтобы не обанкротиться. Случаются и просчеты. Вот, скажем, делали в Обольской школе ставку на выращивание свиней (казалось, беспроигрышную), а выходит, — просчитались. Но кто мог предсказать эту чуму, лихо ее бери?»

Долго по этому поводу обольские педагоги не переживали, утверждает автор, и занялись овцеводством. И не просто взялись за дело, а с мечтой выйти с поставками баранины в рестораны области. «Конкурентов в этом деле у обольских учителей пока нет», — пишет «Герой працы».

Кроме того, школа успешно продает на рынках березовый сок, а в этом году собирается освоить выращивание овощей.

«Хороший бизнесмен знает, как важно ухватить время. Поэтому сейчас все свободные силы аккумулированы в школьных теплицах: выращивают на продажу зелень. (…) К слову можно сказать и о пошиве постельного белья. За пробную партию товара они уже выручили несколько миллионов.

Наверное, есть смысл продолжать эту работу, искать свое место на рынке» — слова «бизнес» и «рынок» в статье звучат гораздо чаще, чем «учитель», «уроки» и «учеба». Впрочем, собственно о школе как об учебном заведении, вспоминается в конце статьи. Благодаря усилиям местного спонсора здесь организовали локальную компьютерную сеть, которая не имеет особого смысла из-за устаревших школьных компьютеров. Заменить их самостоятельно школа не сможет, а поэтому вся надежда на районную власть, — резюмирует автор статьи.

20 лет назад кандидат в президенты Александр Лукашенко обещал в своей предвыборной программе «отвести государство и народ от пропасти». Что у него получилось, и в каком месте по отношению к этой самой пропасти мы находимся спустя два десятилетия бессменного правления Лукашенко, можно судить и по статье в шумилинской районке.

В то время, как в Обольской школе развивают натуральное хозяйство, чтобы купить компьютеры, а в Минске открывают первую «электронную» школу, что и для нашей столицы в диковинку, к примеру, в Эстонии школы повсеместно оснащаются компьютерами и ноутбуками в рамках госпрограммы. К безлимитному и скоростному Wi-Fi в эстонской школе все давно привыкли. И для этого не нужно растить овец и шить пододеяльники.

**Кирилл Иванов**

**Заснавальнік і рэдактар:** Смолікаў Канстанцін Эдуардавіч

**Адрас рэдакцыі:** г. Віцебск, вул. 1-я Сененская д.5, Тэл. +375-29-218-98-38, e-mail: kas_vit@tut.by
Газета выдаецца з лютага 2014 г.

**Падпісана да друку** 29.04.2014 у 21.05
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры падтрымцы аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.